СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.11, 21.01, 15.50;
Віцебск — 4.55, 20.57, 16.02;
Магілёў — 5.00, 20.50, 15.50;
Гомель — 5.02, 20.43, 15.41;
Гродна — 5.25, 21.17, 15.52;
Брэст — 5.34, 21.09, 15.35.

МЕСЯЦ:
Першая квадра 9 мая

ІМЯНІНЫ:
Мікіты, Ігната, Даната, Васіля, Максіма, Якуба;
Роберта, Серваца.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

13 МАЯ 1992 г. серада, № 92 (21870)

## РОЗГАЛАС

### З ЗОНЫ — У ЗОНУ

**ТЫСЯЧАГЕКТАРНЫ ПАЖАР, ЯКІ ПАЛЫХАЎ У ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЕ, ДЗЯКУЮЧЫ НАМАГАННЯМ ПАЖАРНЫХ, А ТАКСАМА ДАРЭЧЫ ВЫПАЎШАМУ ДАЖДЖУ НАРЭШЦЕ ПАТУХ.**

**Небяспека шырокага разносу разам з агнём і дымам радыенуклідаў быццам бы мінула.**

**Але ёсць і іншая навіна. Пажар, які пранёсся не толькі па лясах і палях, але і па многіх бязлюдных вёсках зоны, «выкурыў» з вёскі Машава (на самай граніцы Беларусі і Украіны) трох мужчын і адну жанчыну, якія не так даўно вярнуліся з месц пазбаўлення волі (адзін з іх асабліва небяспечны рэцыдывіст). Жывучы пакінутымі ў скляпах прадуктамі, а таксама брагай, яны знаходзіліся тут ужо некалькі месяцаў. Як яны заявілі, падобных сталкераў у 30-кіламетровай зоне яшчэ многа.**

**Мікалай ЛЯБАХ.**

**г. Чарнобыль.**

### ПАМЯТАЕМ, ЗНАЧЫЦЬ ЖЫВЁМ

**ІЎЕ. (Б. Пракопчык). 12 мая 1942 года... Гэты дзень назаўсёды пакінуў жудасны, крывавы след у гісторыі Іўеўшчыны. Тады, роўна 50 гадоў назад, абарвалася жыццё 2.524 вязняў яўрэйскага гета. Фашысты знішчылі іх фізічна, але памяць аб гэтых людзях жыве.**

І вось зноў на календары 12 мая. На могілках, дзе пахаваны ахвяры генацыду і ўстаноўлены мемарыяльны помнік, адбыўся мітынг-рэквіем. Разам з тымі, хто ведае вайну толькі па кніжках і кінафільмах, у ім удзельнічалі былыя вязні гета, якія цудам засталіся ў жывых — мясцовыя жыхары, госці з Ізраіля, Англіі. «Гэта не павінна паўтарыцца». —гучала ў кожным выступленні. Але паўтараецца, на жаль, Нагорны Карабах, Прыднястроўе... Колькі ж крыві трэба праліць, каб зразумець каштоўнасць кожнага чалавечага жыцця?

### ЧАКАЕМ КОЙВІСТА

**20 мая адбудзецца рабочы візіт Прэзідэнта Фінляндскай Рэспублікі Маўна Койвіста ў Рэспубліку Беларусь.**

**МЗС БЕЛАРУСІ.**

**Паўтара года працуе Ала БАБАЕВА жывапісцам на Добрушскім фарфоравым заводзе. Працуе добра, сумленна. Як яна сама кажа — праблем на рабоце няма. Няма іх, відаць па ўсім, і за парогам прахадной. На першы погляд, дзяўчына занадта сур'ёзная, але сябры добра ведаюць, што Ала вясёлы, кампанейскі чалавек. З ёю лёгка размаўляць, рабіць адну справу. Ёсць у маладой работніцы і асабістае захапленне — у вольны ад работы час Ала не выпускае з рук вязальныя спіцы.**

**Фота А. КЛУНДУКА.**

### Абмен інфармацыяй будзе пашырацца

11 мая ў Міністэрстве інфармацыі Беларусі быў прыняты Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў Рэспубліцы Беларусь Рэйнхарт Краус. Міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч праінфармаваў яго аб асноўных напрамках дзейнасці новага міністэрства, магчымасцях супрацоўніцтва з замежнымі партнёрамі ў галіне сродкаў масавай інфармацыі, кнігавыдання і паліграфіі. Абмеркаваны першачарговыя задачы наладжвання двухбаковых кантактаў на дзяржаўным узроўні, пытанні ўзаемнага абмену інфармацыяй, у тым ліку ў сферы радыё і тэлебачання. Дасягнута дамоўленасць аб арганізацыі ўжо ў бягучым годзе паездак журналістаў Беларусі ў ФРГ з мэтай азнаямлення з практыкай дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі, вывучэння сённяшняй грамадска-палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Германіі.

### Жэтоны іржы і інфляцыі не баяцца

МІНСК. **(Кар. БелаПАН Святлана Кулікова).** На станцыі метро «Плошча Леніна» да чэрвеня будуць уведзены ў абарачэнне жэтоны вартасцю 1 рубель.

Як растлумачыў начальнік службы руху ўпраўлення метрапалітэна В. Кончак, для поўнага пераходу на гэту сістэму ўсіх станцый метро жэтонаў адразу не хопіць. Заказ на выраб 400 тысяч штук іх хутчэй за ўсё будзе выконваць завод вылічальнай тэхнікі. Але ўжо да восені вырабяць дастатковую колькасць жэтонаў, і абсталяванне ўсіх станцый будзе пераналаджана.

УРАДАВАЯ ХРОНІКА

## Прыняты пастановы...

**«Аб зацвярджэнні палажэння аб парадку вызначэння прадпрыемствам, установам, арганізацыям нарматыву браніравання рабочых месц для інвалідаў».**

Гэты нарматыў, які складае не менш пяці працэнтаў ад агульнай колькасці працуючых, датычыцца тых прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, дзе працуе звыш 20 чалавек. Працаўладкаванне інвалідаў ажыццяўляецца дзяржаўнай службай занятасці і таварыствамі інвалідаў. Прыём на работу па накіраванню на спецыяльна створанае або браніруемае для гэтых мэт рабочае месца абавязковы для прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад форм уласнасці і гаспадарання.

**«Аб утварэнні Камітэта па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь».**

Вызначаны задачы і зацверджана структура цэнтральнага апарату. Сярод задач камітэта — кіраванне стандартызацыяй, метралогіяй і сертыфікацыяй у рэспубліцы, забеспячэнне адзінства вымярэнняў, стварэнне і ўвядзенне нацыянальных эталонаў адзінак фізічных велічынь, узаемадзеянне з упаўнаважанымі органамі іншых краін, міжнароднымі і рэгіянальнымі арганізацыямі і інш.

**«Аб унясенні змен у некаторыя рашэнні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па пытаннях разлікаў за тавары».**

З мэтай скарачэння патрэб народнай гаспадаркі ў наяўных грошах ва ўмовах лібералізацыі цэн вызначаецца новы парадак разлікаў па аплаце працы. Прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы, незалежна ад фом уласнасці, штомесяц павінны пералічваць на ўклады ва ўстановах Ашчаднага і іншых камерцыйных банкаў з заработнай платы (даходаў) працуючых суму, якая перавышае пяцікратны размер мінімальнай заработнай платы. Прадугледжана, што продаж прамысловых тавараў коштам 3.000 рублёў і вышэй і тавараў коштам звыш 1.000 рублёў (дываны, дывановыя вырабы, ювелірныя вырабы, пральныя машыны, веласіпеды, пыласосы, люстры, падвесы, свяцільнікі, сервізы сталовыя, чайныя, кафейныя, складанатэхнічныя бытавыя электратавары, такія, як машыны, станкі, інструменты і прыборы, а таксама музычныя інструменты і аднапрадметная мэбля) ажыццяўляецца толькі па чэкавых кніжках Ашчаднага банка, а легкавых аўтамабіляў — па чэках гэтага банка. Усе іншыя нехарчовыя тавары могуць рэалізоўвацца як за наяўны разлік, так і па чэкавых кніжках. У сельскай мясцовасці захоўваюцца існуючыя формы разлікаў.

**«Пытанні архіваў Рэспублікі Беларусь».**

Прадугледжваецца стварэнне на базе Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Рэспублікі Беларусь і былога Цэнтральнага партыйнага архіва КПБ у г. Мінску Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Згодна з пастановай, усе арганізацыі, установы і прадпрыемствы, якія ажыццяўляюць вытворчасць мастацкіх, мультыплікацыйных, дакументальных, навукова-папулярных, вучэбных і іншых фільмаў па рэспубліканскіх сацыяльна-творчых заказах, павінны перадаваць бясплатна ў Цэнтральны дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў Рэспублікі Беларусь на дзяржаўнае захоўванне пазітыўныя іх копіі, а таксама камплекты зыходных і рэкламных матэрыялаў да іх. Акрамя таго, туды ж бясплатна перадаюцца негатывы фатаграфій, выраблены у сродках масавай інфармацыі за кошт дзяржаўных сродкаў.

**«Аб удасканаленні арганізацыі аварыйна-выратавальных работ пры ліквідацыі вынікаў аварый, катастроф і стыхійных бедстваў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь».**

Вырашана ўключыць у аварыйна-выратавальную службу рэспублікі вайсковыя часці грамадзянскай абароны, падраздзяленні пажарнай аховы Міністэрства ўнутраных спраў, тэрытарыяльныя і ведамасныя аварыйна-выратавальныя службы, газавыратавальныя, горнавыратавальныя і іншыя спецыялізаваныя аб'ектавыя аварыйна-выратавальныя падраздзяленні. Вызначаны сістэма кіравання службай, яе асноўныя задачы, а таксама шляхі матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і падрыхтоўкі кадраў.

**«Аб адкрыцці Гандлёвага прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы В'етнам».**

У мэтах далейшага ўмацавання эканамічных сувязей паміж дзвюма краінамі ў В'етнаме адкрыта наша Гандлёвае прадстаўніцтва. Гандлёвым прадстаўніком Беларусі прызначаны Анатоль Шмараеў.

**Уладзімір МАІСЕЕЎ.**
**(Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь).**

### ЭКАНАМІЧНАЯ ПАСТКА

**ГОМЕЛЬ. Прамысловыя прадпрыемствы вобласці трапілі ў своеасаблівую эканамічную пастку. Зараз запазычанасць іх пастаўшчыкам перавышае тры мільярды рублёў, а даўгі банкам — удвая большыя. Катастрофа і з ускоснымі абаротнымі сродкамі, якія не могуць пакрыць затраты на арганізацыю вытворчасці і выплату варплаты, якія апошнім часам павялічыліся ў 15—20 разоў.**

Надзвычайная сітуацыя склалася і з разлікамі з пакупнікамі ў Расіі і на Украіне, з-за чаго ў дэбітарскую запазычанасць за пастаўленую туды прадукцыю адцягнута 6,3 млрд. рублёў. Калі так будзе працягвацца і далей, эканамічны развал прадпрыемстваў непазбежны. Таму іх кіраўнікі звярнуліся ў Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі: нармалізуйце міждзяржаўныя разлікі і выпрацуйце сумесныя меры па правядзенню ўзгодненай крэдытнай палітыкі краін Садружнасці ва ўмовах пераходу на рыначныя адносіны. Што на гэты «СОС» адкажуць там — невядома.

*ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

## АБ ВЕТЭРАНАХ

Гэты Закон вызначае прававы статус ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл*, устанаўлівае кола асоб, якія карыстаюцца льготамі, а таксама гарантыі дзейнасці ветэранскіх арганізацый.

**Артыкул 1. Дзяржаўная палітыка ў адносінах да ветэранаў**

Дзяржаўная палітыка ў адносінах да ветэранаў будуецца на аснове наступных прынцыпаў:

забеспячэнне сацыяльнай і прававой абароненасці;

гарантаванае забеспячэнне на ўзроўні не ніжэй мінімальнай заработнай платы;

стварэнне ўмоў для падтрымання фізічнага і псіхічнага здароўя, актыўнага даўгалецця ў адпаведнасці з дасягненнямі сучаснай навукі;

забеспячэнне жыллём;

прадастаўленне кожнаму ветэрану сацыяльных паслуг, віды і якасць якіх забяспечваюць задавальненне надзённых патрэбнасцей;

садзейнічанне дзейнасці ветэранскіх арганізацый, прыцягненне ветэранаў да непасрэднага ўдзелу ў фарміраванні і рэалізацыі палітыкі і праграм, якія датычацца ўсяго грамадства і ў асаблівасці ветэранаў;

стварэнне неабходных умоў для ўдзелу ў грамадска карыснай дзейнасці, рэалізацыі права на працу без якіх-небудзь абмежаванняў, за выключэннем стану здароўя.

**Артыкул 2. Ветэраны вайны**

Ветэранамі вайны прызнаюцца грамадзяне, якія прымалі ўдзел у баявых дзеяннях па абароне Айчыны ў складзе дзеючай арміі (флоту), партызанскіх атрадаў і падполля, а таксама якія прымалі ўдзел у лакальных войнах і ваенных канфліктах на тэрыторыі іншых краін у складзе фарміраванняў і ў якасці спецыялістаў і саветнікаў Узброеных Сіл, Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР, Міністэрства ўнутраных спраў СССР.

Ветэранамі прызнаюцца таксама:

грамадзяне, якія прымалі ўдзел ва ўзброенай барацьбе з бандфарміраваннямі ў складзе знішчальных батальёнаў, узводаў і атрадаў абароны народа, што дзейнічалі з 1 студзеня 1944 года па 31 снежня 1951 года на тэрыторыі Украінскай ССР, Беларускай ССР і Прыбалтыйскіх рэспублік;

грамадзяне, якія прымалі ўдзел у гады Вялікай Айчыннай вайны ва ўзброенай барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў у складзе знішчальных атрадаў і народнага апалчэння;

грамадзяне, якія прымалі ўдзел у складзе спецыяльных фарміраванняў у размініраванні тэрыторыі пасля вызвалення яе ад нямецкай акупацыі ў 1943—1945 гадах;

работнікі спецыяльных фарміраванняў, пераведзеныя ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны на становішча асоб, што знаходзіліся ў радах Чырвонай Арміі і выконвалі задачы ў інтарэсах арміі і флоту ў межах тылавых граніц дзеючых франтоў або аператыўных зон дзеючых флатоў;

грамадзяне, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, прымаўшыя ўдзел у баявых дзеяннях супраць фашысцкай Германіі, яе саюзнікаў і імперыялістычнай Японіі ў гады другой сусветнай вайны на тэрыторыі замежных краін у складзе нацыянальных армій.

У далейшым парадак вызначэння статуса ветэрана вайны ўстанаўліваецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 3. Ветэраны працы**

Ветэранамі працы прызнаюцца грамадзяне, якія маюць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам права на пенсію па ўзросту, у тым ліку і інваліды, якія маюць працоўны стаж, неабходны для назначэння пенсіі па ўзросту.

**Артыкул 4. Ветэраны Узброеных Сіл**

Ветэранамі Узброеных Сіл з'яўляюцца ваеннаслужачыя, звольненыя ў запас або адстаўку па ўзросту і выслузе гадоў, у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых.

**Артыкул 5. Пенсіённае забеспячэнне**

Пенсіі ветэранам назначаюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам аб пенсіённым забеспячэнні грамадзян і ваеннаслужачых.

**Артыкул 6. Асновы палітычнага, сацыяльнага і прававога статуса ветэранаў**

Ветэраны ў Рэспубліцы Беларусь валодаюць усёй паўнатой палітычных, сацыяльна-эканамічных, асабістых правоў і свабод і выконваюць абавязкі, прадугледжаныя для грамадзян Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і іншымі заканадаўчымі актамі.

Прызнаючы заслугі ветэранаў, дзяржава гарантуе ім дадатковыя правы і льготы на аснове гэтага Закона і іншых заканадаўчых актаў.

**Артыкул 7. Асновы прававога статуса і стварэння ветэранскіх арганізацый**

У мэтах абароны правоў і ахоўваемых законамі інтарэсаў ветэранаў у абласцях, раёнах, гарадах, на прадпрыемствах, у арганізацыях, ва ўстановах і па месцы жыхарства ствараюцца ветэранскія арганізацыі, якія ўзначальваюцца выбранымі імі саветамі ветэранаў, што аб'ядноўваюцца Рэспубліканскім саветам, і ажыццяўляюць сваю дзейнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб грамадскіх аб'яднаннях і статутам арганізацыі ветэранаў Рэспублікі Беларусь.

Ветэранскія арганізацыі на адпаведным узроўні маюць права ўдзельнічаць у выпрацоўцы і прыняцці рашэнняў дзяржаўных органаў, прадстаўляць і абараняць інтарэсы ветэранаў у дзяржаўных і грамадскіх органах, выконваць іншыя паўнамоцтвы, прадугледжаныя заканадаўствам аб грамадскіх аб'яднаннях і іншымі актамі заканадаўства, а таксама атрымліваць неабходную інфармацыю па пытаннях сацыяльна-эканамічнага становішча працуючых і непрацуючых ветэранаў ад адміністрацыі прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, органаў дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання.

**Артыкул 8. Працяг працоўнай дзейнасці**

Ветэраны, атрымліваючы пенсію, маюць права працягваць працоўную дзейнасць на прадпрыемстве, у арганізацыі, ва ўстанове, дзе раней працавалі, або на іншым прадпрыемстве незалежна ад формы ўласнасці, а таксама займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю, не забароненай законам, ствараць прадпрыемствы любых форм гаспадарання.

Абмежаванне працоўнай, прадпрымальніцкай і іншай грамадска карыснай дзейнасці ветэранаў не дапускаецца, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных законам.

Ветэрану пасля выхаду на пенсію па рашэнню працоўнага калектыву прадастаўляюцца дадатковыя ў параўнанні з дзеючым заканадаўствам ільготы па паляпшэнню жыллёвых умоў, аказанню медыцынскай дапамогі, санаторна-курортнаму і культурнаму абслугоўванню, устаноўленыя на дадзеным прадпрыемстве, у арганізацыі, ва ўстанове.

**Артыкул 9. Гарантыі вытворчай дзейнасці ветэранскіх арганізацый**

Дзяржаўныя органы ў межах сваёй кампетэнцыі могуць аказваць ветэранскім арганізацыям фінансавую падтрымку, прадастаўляць субсідыі са сродкаў адпаведных бюджэтаў, бязвыплатна прадастаўляць будынкі і памяшканні, абсталяванне і іншую маёмасць, неабходную для ажыццяўлення іх статутных задач.

Прадпрыемствы ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл, на якіх працуе не менш 70 працэнтаў пенсіянераў ад сярэднясپісачнай колькасці прамыслова-вытворчага персаналу, вызваляюцца ад выплаты падатку на прыбытак.

**Артыкул 10. Паляпшэнне жыллёвых умоў**

Ветэранам, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, жылыя памяшканні прадастаўляюцца выканкомамі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў па месцы жыхарства або прадпрыемствамі па месцы ранейшай работы ў адпаведнасці з жыллёвым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Ветэраны маюць пераважнае права на ўступленне ў жыллёва-будаўнічыя (жыллёвыя), гаражныя кааператывы і садаводчыя таварыствы, а таксама на атрыманне льготных пазык для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва.

**Артыкул 11. Аплата жылой плошчы і камунальных паслуг**

Ветэранам вайны (мужчынам, дасягнуўшым 60 гадоў, жанчынам — 55 гадоў), рэабілітаваным ахвярам палітычных рэпрэсій, непрацуючым ветэранам працы і Узброеных Сіл (мужчынам, дасягнуўшым 60 гадоў, жанчынам — 55 гадоў), якія не маюць дзяцей, а таксама пражываюць асобна ад дзяцей і іншых сваякоў, прадастаўляецца 50-працэнтная скідка па аплаце жылой плошчы ў межах норм, прадугледжаных дзеючым заканадаўствам, аплаце за карыстанне тэлефонам (акрамя міжгародніх і міжнародных перагавораў), камунальнымі паслугамі (ацяпленне, газ, водаправод, электраэнергія), а пражываючым у дамах, што не маюць цэнтральнага ацяплення, — 50-працэнтная скідка з кошту паліва, якое набываецца ў межах норм, устаноўленых для продажу насельніцтву.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

* У далейшым — ветэранаў.

### *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах» з 1 студзеня 1993 года; артыкул 21 — з 1 ліпеня 1993 года.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у тэрмін да 1 студзеня 1993 года:

вызначыць парадак прадастаўлення льгот асобам, указаным у частцы другой артыкула 2, артыкулах 11, 14, 17 і 21 указанага Закона;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах».

3. Рэкамендаваць мясцовым Саветам народных дэпутатаў распрацаваць і ажыццявіць мерапрыемствы, накіраваныя на рэалізацыю палажэнняў Закона, а таксама адшукаць магчымасці для ўстанаўлення ветэранам дадатковых ільгот.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

17 красавіка 1992 г., г. Мінск.

### *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**АБ ПАРАДКУ ВЫЗНАЧЭННЯ СТАВАК ПЛАТЫ ЗА ПРОДАЖ ТАВАРАЎ У КРЭДЫТ**

У сувязі са стварэннем рыначных структур у гандлі і ў мэтах далейшага ўзмацнення сацыяльнай абароны насельніцтва рэспублікі ва ўмовах лібералізацыі цэн Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прадаставіць права дзяржаўным прадпрыемствам гандлю і бытавога абслугоўвання насельніцтва ўстанаўліваць спаганяемую з пакупнікоў плату за карыстанне крэдытам зыходзячы з таго, што яна не павінна перавышаць больш чым на 2 працэнты ўзровень працэнтных ставак, прымяняемых банкамі пры крэдытаванні ўказаных прадпрыемстваў.

2. Ільготная плата за карыстанне крэдытам для пакупнікоў (заказчыкаў) — інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны і прыроўненых да іх у дзяржаўных прадпрыемствах гандлю і бытавога абслугоўвання насельніцтва вызначаецца зыходзячы з мясцовых умоў абл-выканкомамі і Мінскім гарвыканкомам.

3. Рэкамендаваць гандлёвым прадпрыемствам спажывецкай кааперацыі і іншым прадпрыемствам недзяржаўных форм уласнасці, якія ажыццяўляюць продаж тавараў насельніцтву (індывідуальны пашыў адзення), прымяняць парадак спагнання з пакупнікоў платы за карыстанне крэдытам, устаноўлены ў пункце 1 гэтай пастановы.

4. Міністэрству гандлю з удзелам Белкаапсаюза і Белбытсаюза па ўзгадненню з Міністэрствам юстыцыі да 15 мая 1992 года распрацаваць і зацвердзіць Інструкцыю аб парадку продажу тавараў у крэдыт і індывідуальнага пашыву адзення на ўмовах аплаты ў крэдыт матэрыялаў атэлье і майстэрань.

5. Прыняць да ведама, што Ашчадным банкам у межах яго кампетэнцыі ажыццяўляецца крэдытаванне насельніцтва на спажывецкія патрэбы.

6. Прызнаць страціўшай сілу Інструкцыю аб парадку продажу тавараў у крэдыт і індывідуальнага пашыву адзення на ўмовах аплаты ў крэдыт матэрыялаў атэлье і майстэрань, зацверджаную пастановай Савета Міністраў БССР ад 16 кастрычніка 1985 года № 310 (ЗЗ БССР, 1985 г., № 30, арт. 429; 1986 г., № 33, арт. 441; 1989 г., № 23, арт. 242; СП БССР, 1991 г., № 16, арт. 162).

7. Гэта пастанова ўводзіцца ў дзеянне з 15 мая 1992 года.

**Намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М. МЯСНІКОВІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М. КАЎКО.**

30 красавіка 1992 г.
г. Мінск.

## «У нас усё дэмакратычна...»

Апошнім часам не ведаю як каго, а мяне шчыра радуюць перамены, што ўвачавідкі адбываюцца ў нашай Цэнтральнай выбарчай камісіі (цяпер Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму). У свой час не раз даводзілася пісаць пра абстаноўку, у якой праводзіліся апошнія выбары ў Вярхоўны Савет рэспублікі (кампетэнцыя якраз гэтага склікання камісіі). Ведаеце, як крыўдна: напішаш вялізны артыкул, падрабязна раскажаш, дзе, хто і якія хітрыкі прымяняў, каб пралезці ў дэпутаты (у тым ліку і з парушэннем закона), а потым прыязджае паўнамоцны член камісіі і кампетэнтна сцвярджае: нічога страшнага не адбылося. Калі крыху і парушылі закон, то гэта на зыход выбараў не паўплывала. Усе так робяць. Няма чаго біць у званы.

Цяпер такія вольнасці не праходзяць. Як урачыста паведаміў на апошнім пасяджэнні камісіі па рэферэндуму яе сакратар Іван Ліхач, правільнасць запаўнення падпісных лістоў аналізавалася самым уважлівым чынам. Мала таго, што ўсе члены камісіі напружана працавалі,— прыцягвалі і спецыялістаў. Напрыклад, Навукова-даследчага інстытута па праблемах крыміналістыкі і судовай экспертызы.

Што ж удалося выявіць такімі грунтоўнымі і кампетэнтнымі сіламі? У 1.598 лістах з амаль 7 тысячамі подпісаў адной і той жа асобай зроблены два і больш подпісы (муж распісаўся за жонку ці наадварот). На 127 лістах (447 подпісаў) няма выканкомаўскіх пячатак. На іншых пячатка стаіць, але не тая... Усяго набралася 52.162 подпісы. Калі ўлічыць, што менавіта столькі подпісаў, нягледзячы на дэбаты, было выключана з агульнай колькасці сабраных, то застаецца толькі пазайздросціць прадбачлівасці ініцыятыўнай групы, якая прадставіла подпісы з вялікім запасам: 442 тысячы замест 350. Гэта і выручыла, хоць сітуацыя магла быць і іншай. Мяркуйце самі.

Найбольш гарачыя спрэчкі выклікаў 13-ы пункт пастановы. У ім адзначана, што на 14.719 падпісных лістах, у якіх 46.857 подпісаў грамадзян, подпісы членаў ініцыятыўнай групы засведчаны не пячаткай выканаўчага і распарадчага органа гарадскога ці раённага Савета народных дэпутатаў (прасцей — гербавай), а пячаткай агульнага аддзела таго ж выканкома. Менавіта столькі лістоў паспелі праштампаваць, пакуль не з'явіліся тлумачэнні Цэнтральнай камісіі на прадмет таго, якая пячатка будзе сапраўднай. Зроблена тлумачэнне ў канцы красавіка, а подпісы збіралі ажно з лютага.

Хто ж вінаваты, што пячатку паставілі не тую — члены ініцыятыўнай групы ці работнікі выканкомаў? Апошнія, відаць, павінны больш ведаць, куды якія пячаткі ставіць. Спасылкі на тое, што, маўляў, ішлі за пячаткай туды, дзе працавалі «свае» людзі, мне, напрыклад, здаюцца негрунтоўнымі: калі старшыня Савета, скажам, «ад наменклатуры», заўзяты праціўнік рэферэндуму, то няма гарантыі, што ў агульным аддзеле працуе абавязкова дэмакрат. Хутчэй за ўсё, лісты прыносіліся ў выканком, а там рабілі як найпрасцей, як прывычней.

З такой логікай члены камісіі не пагадзіліся. Амаль 47 тысяч подпісаў — больш за 10 працэнтаў ад сабраных! — былі выключаны з агульнай колькасці толькі на гэтай падставе. Іх усё ж аказалася мала, каб паўплываць на зыход справы. Але ж магло быць і інакш. Такіх галасоў магло быць не 47 тысяч, а, скажам, 147. Усё было б вельмі проста: вінаваты выканкомы. Але што ўжо шукаць вінаватых, калі справа загублена?

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**А дапамагае яму ў гэтым адпаведная служба: сектар вывучэння грамадскай думкі Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Саўміна РБ. Створаны ён год назад. Калі задача упраўлення — інфармаваць грамадскасць аб дзейнасці ўрада, то сектара — вывучаць грамадскую думку. Яго супрацоўнікі займаюцца сацыялагічным аналізам урадавых дакументаў, праводзяць экспертны аналіз эканамічнай палітыкі ўрада, даюць прагнозы. Узначальвае сектар кандыдат сацыялагічных навук Аляксандр Данілаў, які згадзіўся адказаць на некалькі пытанняў.**

# Урад ведае, як народ рэагуе на яго крокі

**— Самае надзённае пытанне для нас зараз — як жыць далей? Ці ёсць выйсце з таго складанага становішча, у якое трапіла эканоміка рэспублікі і мы разам з ёй?**

— Мы праводзілі такое апытанне. Яно паказала, што людзі бачаць некалькі шляхоў вырашэння праблемы. Большасць — 58 працэнтаў — лічаць, што зараз нам патрэбны парадак і дысцыпліна ва ўсіх сферах жыцця грамадства. 41 працэнт бачыць выйсце з крызісу ў рашучым прымяненні мер крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці па фактах карупцыі, крадзяжоў і ўтойвання тавараў. 31 працэнт апытаных лічыць неабходным аказваць больш істотную падтрымку вытворцам сельскагаспадарчай прадукцыі. У паскарэнні прыватызацыі паратунак ад эканамічных бед бачаць 25 працэнтаў. Столькі ж лічаць неабходным стварыць больш спрыяльныя ўмовы для прадпрымальнікаў у сферы вытворчасці, 18 — усталяваць рэжым строгай эканоміі матэрыяльных і валютных сродкаў, 13 — за прыняцце антыалкагольнага заканадаўства. Ёсць і іншыя прапановы.

**— У вас ёсць даныя аб рэакцыі людзей на павышэнне цэн?**

— Для 67,7 працэнта апытаных намі людзей такі высокі рост цэн аказаўся нечаканым. Выгадным гэта павышэнне яны лічаць для перакупшчыкаў і пасрэднікаў (67,7 працэнта), для гандлю — 39,7, для вытворцаў тавараў і харчавання — 26,1, для мясцовых улад — 19,6, для замежных дзяржаў— 4,3 працэнта.

**— І як людзі думаюць выжыць у такіх умовах?**

— Тут цікавы момант у тым, што асабістай справай вырашылі заняцца толькі 3,9 працэнта. 42,1 працэнта апытаных скарачаюць расходы на харчаванне і вольны час. Імкнуцца выкарыстаць любую магчымасць, каб атрымаць дадатковы заробак 33,7 працэнта. Садам і агародам займаюцца 31 працэнт. Камерцыйныя паездкі ў Польшчу ажыццяўляюць 16,5 працэнта. Спекуляцыяй займаюцца 8,3 працэнта. 2,1 — збіраюцца эмігрыраваць. Толькі 1,1 працэнта дабіваюцца паляпшэння жыцця палітычнымі метадамі.

**— А як нашы суайчыннікі ацэньваюць узровень свайго жыцця?**

— Гэта вельмі важнае пытанне. Нашы спробы высветліць яго паказалі: усе лічаць, што жыць у нашай рэспубліцы можна. 28,5 працэнта адказалі, што мы жывём лепш, чым людзі ў іншых рэгіёнах былога Саюза. Што, калі і ёсць недзе лепшае жыццё, то можа толькі ў Прыбалтыцы. А наогул, мы з ёй на адным узроўні. Але ніхто не задумваецца, што, атрымаўшы суверэнітэт, наша дзяржава з вялікімі цяжкасцямі ўтрымлівае жыццёвы ўзровень, нядрэнны ў параўнанні з іншымі дзяржавамі СНД. Дасягаецца гэта, між іншым, у немалой ступені дзякуючы ўраду.

**— Дарэчы, у вас ёсць даныя пра адносіны людзей да ўрада рэспублікі?**

— Мы двойчы праводзілі апытанне па рэферэндуму. Калі ў пачатку лютага 42,3 працэнта станоўча ставіліся да яго правядзення, то ў канцы сакавіка іх колькасць зменшылася да 35 працэнтаў. І зараз павялічваецца колькасць людзей, якія лічаць, што рэферэндум не прынясе нічога добрага. А ў стабілізацыі становішча ў пераходны перыяд немалая роля належыць ураду. Звязана гэта з тым, што вельмі многае ва ўстанаўленні адносін з дальнім і блізкім «замежжам» залежыць ад асоб, іх намаганняў і вопыту. Многія з членаў урада працавалі ў прамысловасці. Пастаянна абнаўляюцца кадры міністэрстваў і ведамстваў, куды прыходзяць людзі яшчэ дастаткова маладыя, з вучонымі ступенямі. І нельга гаварыць, што гэта кансерватары. Тым больш, што ўрад у такім саставе працуе нядоўга, але становішча ў нас не горшае, чым у суседзяў. Вядома, ёсць падставы для крытыкі ўрада, і ўрад адкрыты для яе. Цяперашні курс урада і яго палітыку з агаворкамі падтрымліваюць 43,8 працэнта апытаных намі. Яны лічаць, што ўрадам былі дапушчаны некаторыя памылкі. Але сёння можна сказаць галоўнае, на мой погляд, што дабрабыт, узровень жыцця ў сям'і ці кожнага чалавека ў большай ступені залежыць і ад яго самога, ад яго навыкаў, ведаў.

**— Зыходзячы з тых аналізаў, якія вы праводзіце, можна зрабіць невялічкі прагноз, калі, прыблізна, мы выберамся з гэтай неразбярыхі і сумятні і пачнём нармальнае жыццё, адносна спакойнае і ўраўнаважанае?**

— Насельніцтва лічыць, што шлях гэты будзе цяжкім. І кожны пяты мяркуе, што стабілізацыя ў насычэнні таварамі і ў развіцці рынку адбудзецца на працягу пяці гадоў. Гэта — мінімум.

**— Якое размеркаванне зараз у нашай рэспубліцы палітычных сіл?**

— У першую чаргу мы займаемся аналізам і прагнозамі становішча ў сацыяльнай сферы і эканоміцы. Але палітыка вельмі моцна ўплывае на іх развіццё, таму нам важна ведаць рэйтынг і імідж лідэраў, што за грамадства ў нас, чаму людзям жывецца няўтульна, магчымыя выхады з гэтай сітуацыі. Мы стараемся ацаніць рэальную сітуацыю без прыхарошвання і, нягледзячы ні на якія цяжкасці, рабіць прагнозы і працаваць далей. Мы прыйшлі да вываду, што ў палітычнай сферы ідзе зараз запаўненне цэнтра. Ёсць крайнія пункты погляду: радыкальнага крыла БНФ і артадаксальных камуністаў. Справа ў тым, што 50 і больш працэнтаў не падтрымліваюць нікога. Таму барацьба за палітычны цэнтр будзе працягвацца, і вельмі важна, хто пераможа.

**— Якое практычнае прымяненне знаходзяць вынікі вашай работы?**

— Усе нашы аналізы і разлікі мы аддаём ураду рэспублікі. Ён улічвае іх пры прыняцці сваіх рашэнняў. Абавязкова паведамляем іх у рэспубліканскім друку і такім чынам маем зваротную сувязь. Многія лічаць, што іх думка ні на што не ўплывае. Але гэта не так. Адказы на пытанні нашых анкет уплываюць на прыняцце рашэнняў у сферы эканомікі, палітыкі, культуры і іншых важных сферах нашага жыцця.

**— Застаецца толькі спадзявацца, што голас народа будзе заўсёды і своечасова пачуты ўрадам, дзякуючы вашай службе, Аляксандр Мікалаевіч. А вынікі апытанняў газета «Звязда» будзе друкаваць на сваіх старонках.**

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**



**З розных гарадоў і вёсак рэспублікі, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджванню ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, прыязджаюць хворыя ў клініку навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны. Іх чакаюць вопытныя ўрачы, сучасны курс лячэння. Тут жа аказваецца медыцынская дапамога ўдзельнікам ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС.**

**НА ЗДЫМКУ: загадчык кабінета ультрагукавога даследавання Ніна Леанідаўна КАРЫЦЬКА аглядае юную пацыентку з вёскі Дубрава Ельскага раёна.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

**Дынамізм грамадска-палітычных пераўтварэнняў, нарастанне процістаяння розных палітычных груп, размыванне прынцыпу адзінства законнасці, падзенне аўтарытэту ўлады і закона ўшчыльную падвялі нас да неабходнасці перагляду ролі і месца пракуратуры ў сістэме органаў улады. Пракуратура не толькі тэарэтычна павінна быць сапраўдным гарантам дакладнага захавання законаў. Летась, напрыклад, пракурорамі было апратэставана каля 3 тысяч незаконных прававых актаў, з іх кожны дзесяты выдадзены мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў. Але часта законныя патрабаванні пракурораў упіраюцца ў непрабівальную сцяну прававога нігілізму. З прынесеных пракурорамі пратэстаў адхілены кожны 16-ы, у тым ліку мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў—кожны 9-ы пратэст.**

# А ПРАКУРОРЫ— ХТО?

Тут надзейнай заслонай павінна стаць права пракурора аспрэчваць незаконнае адхіленне пратэсту ў судзе. Але ў многіх выпадках гэта зноў жа ўпіраецца ў другую непрабівальную сцяну — нежаданне судоў пад рознымі прычынамі разглядаць такія справы.

Многае трэба зрабіць і ў забеспячэнні законнасці ў гаспадарчых адносінах. Сёння даваляецца тое, што доўгія гады скоўвалася жорсткімі, часта валюнтарысцкімі абмежаваннямі. А таму пракуратуры трэба забяспечыць вырашэнне двуадзінай задачы — з аднаго боку ліквідаваць усе бюракратычныя рагаткі на шляху рэалізацыі рынкавых законаў, з другога — перашкодзіць пераходу агульнанароднага дабра ў нячыстыя рукі, перакупцы яго на крадзеныя грошы.

Канешне, з часам функцыі пракурорскага нагляду за законнасцю ў эканоміцы ўсё больш і больш будуць звужацца, як будуць адміраць і перашкоды на шляху развіцця прадпрымальніцтва. Але гаварыць аб поўным знікненні пракурорскага нагляду ў сферы эканомікі нельга. Пры любым развіцці эканамічных адносін мы будзем сутыкацца з такімі негатыўнымі з'явамі, як манапалізм, злачынны бізнес і г. д. Так, пракуратурай рэспублікі быў выяўлены шэраг сур'ёзных парушэнняў законнасці ў дзейнасці камерцыйнага прамыслова-інавацыйнага банка. Гэта дазволіла вярнуць у рэспубліку больш як 30 мільёнаў рублёў, якія па халатнасці кіраўнікоў гэтага банка трапілі ў нячыстыя рукі. А ўсяго летась пракурорамі прад'яўлена іскаў на 118 мільёнаў рублёў.

Апошнім часам шмат гаворыцца аб неабходнасці скасавання функцыі пракуратуры па апратэставанню незаконных прыгавораў, рашэнняў і пастаноў судоў, маўляў, гэта парушае прынцып незалежнасці судовай улады. Але ж права пракурора на прынясенне пратэсту на незаконнае судовае рашэнне ні ў якім разе не ставіць яго над судом, не падрывае прынцып незалежнасці суда. У канчатковым выніку гаворка ідзе аб законнасці, а пракурорскі нагляд з'яўляецца дадатковай яе гарантыяй. Тым больш, што пратэст пракурора — толькі прычына для праверкі справы вышэйстаячым судом. Так, летась пракурорамі было апратэставана 2.300 прыгавораў, рашэнняў і вызначэнняў па крымінальных і грамадзянскіх справах. Пры гэтым 1.800 пратэстаў, або 80 працэнтаў іх, задаволены. А за кожным неправасудным рашэннем стаяць інтарэсы таго або іншага чалавека, дзяржавы. Пацвярджэннем неабходнасці пракурорскага нагляду ў судавытворчасці могуць служыць і даныя аб выніках прымянення Закона Рэспублікі Беларусь «Аб часовых мерах па абароне спажывецкага рынку ў Рэспубліцы Беларусь». З паступіўшых за час яго дзеяння ў органы пракуратуры больш як 800 скаргаў грамадзян на неабгрунтаванае прыцягненне іх да адміністрацыйнай адказнасці задаволена кожная трэцяя.

Пастановай народнага суддзі Расонскага раёна Віцебскай вобласці ад 30 кастрычніка мінулага года І. Лісоўскі за парушэнне патрабаванняў артыкула 10 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб часовых мерах па абароне спажывецкага рынку ў Рэспубліцы Беларусь» падвергнуты штрафу на суму 5 тысяч рублёў з канфіскацыяй незаконна вывозімага тавару. І. Лісоўскі прызнаны вінаватым у тым, што спрабаваў незаконна вывезці з тэрыторыі рэспублікі халадзільнік «Мінск-15М» і два свяцільнікі.

Па пратэсту Пракуратуры Рэспублікі Беларусь ад лютага гэтага года даная пастанова суддзі адменена як незаконная.

Суд не прыняў да ўвагі, што Лісоўскі перад тым, як вывозіць рэчы сына—студэнта Ноўгарадскага сельскагаспадарчага інстытута, падораных таму на вяселле, звярнуўся ў сельскі Савет за дазволам на такі вываз. Старшыня сельсавета, перавысіўшы свае паўнамоцтвы і не растлумачыўшы, што дазвол аб вывазе рэчаў хатняга ўжытку выдаецца раённымі Саветамі, выдаў Лісоўскаму даведку для прадастаўлення на КПП.

У інтэрв'ю «Звяздзе» 26 сакавіка г. г. Старшыня Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь У. С. Каравай сказаў аб выпраўленых судовых памылках толькі ў парадку нагляду. А большая ж іх частка, як відаць з прыведзеных даных, выпраўляецца па касацыйных пратэстах пракурораў.

Дарэчы, аб пратэстах у парадку нагляду старшынь судоў. Калі гэты парадак вызначэння законнасці судовых рашэнняў захаваць, то нельга гаварыць аб незалежным судзе. Бясспрэчна, што суддзя, які напісаў пратэст і сам жа яго разглядаў, той пратэст задаволіць. Аб гэтым сведчаць і лічбы, прыведзеныя ў названым інтэрв'ю. Судовыя пратэсты задаволены на 98,9 працэнта, а пракурорскія — на 76. Але ў такім разе цяжка гаварыць аб судзе як заўсёды аб'ектыўным арбітры ў спрэчцы бакоў. А нават не зусім аб'ектыўны суд — гэта ўжо залежны суд. І гэта ўжо не правасуддзе.

Сёння ўжо можна канстатаваць, што дзяржава не ў сілах выкараніць злачыннасць, аднак у стане стрымліваць яе на сацыяльна цярпімым узроўні. Для гэтага неабходна пастаяннае вывучэнне злачыннасці, яе прагназіраванне і адэкватнае рэагаванне. Думаю, што ў рэспубліцы павінен быць навуковы цэнтр па вывучэнню злачыннасці. Першы такі крок ужо зроблены. Пры Міністэрстве юстыцыі створаны інстытут крыміналогіі, крыміналістыкі і судовых экспертыз. Праўда, крыміналагічная частка гэтага інстытута пакуль што слабая. Хацелася б, каб інстытут не распыляў свае невялікія сілы на шматлікія праблемы, а займаўся распрацоўкай мер нейтралізацыі прычын хоць бы найбольш распаўсюджаных злачынстваў.

Пракуратура, як вядома, была створана ў інтарэсах правільнай арганізацыі барацьбы са злачыннасцю. Таму ўяўляецца, што асноўным напрамкам у яе дзейнасці павінен стаць нагляд за выкананнем законаў аб папярэджанні злачыннасці, і ў першую чаргу арганізаванай, прафесіянальнай злачыннасці ў галіне эканомікі. Гэта функцыя павінна знайсці дакладнае заканадаўчае замацаванне ў Законе «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь».

На жаль, крымінальна-прававая абарона грамадзян, іх жыцця, здароўя, маёмасці прыкметна адстала ад галапіруючай злачыннасці. Толькі летась у рэспубліцы не раскрыта звыш 31 тысячы злачынстваў. Адным словам, хваля злачыннасці нарастае, аднак да гэтага часу не распрацавана канцэпцыя, як зрабіць работу крымінальнага вышуку больш эфектыўнай, як дабіцца сканцэнтравання яго намаганняў толькі на раскрыцці злачынстваў.

У прамой сувязі з раскрыццём злачынстваў знаходзіцца праблема пошуку людзей, прапаўшых без вестак. З-за недасканаласці заканадаўства ў рэспубліцы склаліся недастойныя для цывілізаванага грамадства абыякавыя адносіны да тых, хто прапаў без вестак. У мінулым годзе работнікі міліцыі не здолелі знайсці 415 такіх асоб. Многія з іх сталі ахвярамі злачынстваў.

Сур'ёзнай перашкодай для забеспячэння прынцыпу няўхільнасці пакарання за злачынства з'яўляецца дзеючы інстытут перадачы матэрыялаў на рэагаванне грамадскасці. У мінулым годзе ў рэспубліцы вызвалена ад усякай адказнасці звыш 6 тысяч чалавек, якія ўчынілі злачынствы, бо таварыскія суды даўно бяздзейнічаюць. Такая практыка — а яе спыніць можа толькі заканадаўства — падрывае аўтарытэт закона і ўлады, спрыяе парушальнікам законнасці.

Сёння патрабуюцца зусім іншыя крытэрыі ацэнкі дзейнасці пракурораў. Шмат гадоў неабгрунтавана пашыралася адказнасць пракурораў не толькі за законнасць, але і за арганізацыю, якасць, выніковасць дзейнасці ўсіх следчых, у тым ліку і МУС, хоць у органах унутраных спраў для гэтай работы ў кожным раёне ёсць спецыяльная адказная асоба —начальнік следчага аддзялення (аддзела). Пракурор не павінен браць на сябе функцыю непасрэднага кіравання расследаваннем у органах унутраных спраў. Гэта функцыя начальнікаў следчых аддзяленняў і аддзелаў, за дзейнасцю якіх павінен ажыццяўляцца сістэматычны нагляд. Значыць, неабходна павысіць адказнасць кіраўнікоў следчых падраздзяленняў за забеспячэнне паўнаты, усебаковасці і аб'ектыўнасці расследавання абставін крымінальных спраў. І гэта палажэнне павінна знайсці дакладнае адлюстраванне ў крымінальна-працэсуальным кодэксе.

**Уладзімір КАНДРАЦЬЕЎ, выконваючы абавязкі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.**

## КАШТОЎНЫЯ ПАПЕРЫ

**Рубрыку вядзе Аляксандр БУРДА, брокер фірмы «Аліна»**

# ЯК НАБЫЦЬ АКЦЫІ?

Дапусцім, вы вырашылі купіць акцыі якога-небудзь акцыянернага таварыства. Перш за ўсё трэба прыняць да ўвагі, што самае выгаднае — набываць акцыі пры іх першапачатковым размяшчэнні (падпісцы). Гэтыя акцыі прадаюцца або па наміналу, або крыху даражэй (для пакрыцця расходаў па падпісцы і г. д.). А ў далейшым кошт іх можа ўзрасці, і вельмі істотна. Так, акцыі «Прыорбанка» пры намінале 1.000 рублёў цяпер можна купіць ужо за 1.600. А яшчэ пры падпісцы вы маеце права заплаціць толькі 30 працэнтаў кошту, а астатнія 70 працэнтаў унесці на працягу года (калі іншы тэрмін не прадугледжаны статутам АТ). Напрыклад, падпісаўшыся на 3 акцыі АТ «Прамінвест» наміналам па 1.000 рублёў, вы павінны адразу заплаціць толькі 900, а астатнія 2.100 — на працягу трох месяцаў. Калі ж вы купляеце акцыі, а падпіска ўжо закончылася, — будзьце ласкавы ўнесці ўсю суму адразу.

Такім чынам, вы выбралі акцыі сабе па густу, — засталося толькі заплаціць грошы. Гэта можна зрабіць трыма спосабамі.

Першы спосаб — самы просты: прыйсці на пункт падпіскі і адлічыць патрэбную суму наяўнымі. Вашы імя, адрас і тэлефон запішуць у спецыяльную кнігу, прымуць у вас грошы і выдадуць часовае пасведчанне акцыянера на вашае ж імя. Пасля таго, як будуць надрукаваны акцыі, гэта пасведчанне будзе заменена на саму акцыю.

Можна зрабіць інакш, каб не мець справу з наяўнымі. Усе мы ведаем, што на некаторых прадпрыемствах зацягваюць выплату зарплаты, у ашчадбанках абмяжоўваюць выдачу грошай — няма наяўных. Таму можна зрабіць так: даведацца нумар рахунка акцыянернага таварыства, потым пайсці ў ашчадбанк і пералічыць грошы са сваёй ашчаднай кніжкі на гэты рахунак (пры гэтым указаць — «для пакупкі акцый»). Затым на пункце падпіскі прад'явіць квітанцыю з ашчадбанка і атрымаць пасведчанне акцыянера.

Нарэшце, ёсць трэці спосаб— самы выгадны для вас. Вы можаце пералічыць грошы са сваёй зарплаты праз бухгалтэрыю па месцы работы. Для гэтага патрэбна падаць заяву ў бухгалтэрыю, атрымаць квітанцыю аб пералічэнні грошай, і па гэтай квітанцыі на пункце падпіскі вам выдадуць часовае пасведчанне акцыянера. Гэты спосаб, падкрэслю, самы выгадны, таму што частка зарплаты, накіраваная на пакупку акцый, не абкладаецца падаходным падаткам (згодна з артыкулам 3, пунктам 1ф Закона «Аб падатках з грамадзян»). Гэта асабліва важна для тых, хто атрымлівае вялікую зарплату і, натуральна, павінен плаціць вялікія падаткі. Так можна купляць акцыі не толькі пры падпісцы, але і на біржы — у любым выпадку адпаведныя сумы вызваляюцца ад падаткаў.

***

**Па ўсіх пытаннях набыцця і рэалізацыі акцый, аблігацый, дэпазітных сертыфікатаў і іншых каштоўных папер звяртайцеся ў брокерскую фірму «Аліна», тэл. 64-16-30.**

## ПАЛЕМІЧНЫ КЛУБ «ЗВЯЗДЫ»

# ЗАБЫТАЯ СЛАВА

**У лютым—сакавіку г. г. «Звязда» ў шэрагу нумароў змясціла кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі «Забытая слава» — плён працы вялікага калектыву вядомых беларускіх гісторыкаў.**

**Публікацыя выклікала супярэчлівыя водгукі чытачоў. Асабліва шмат апанентаў аўтараў «Забытай славы» па раздзелах, у якіх пераацэньваецца роля Расіі, расійскай арміі ў гісторыі Беларусі.**

**Паважаючы меркаванні і пажаданні чытачоў, «Звязда» дае магчымасць выказацца розным аўтарам, думку якіх рэдакцыя часам не падзяляе. Але, змяшчаючы сёння падборку водгукаў на «Забытую славу», мы мусім зазначыць: як бы балюча і непрыемна ні было многім з нас развітвацца з прывычнымі стэрэатыпнымі поглядамі на айчынную гісторыю, сфармаванымі з лёгкай рукі па-імперску настроеных афіцыяльных гісторыкаў мінулага, — зрабіць гэта ўсё ж давядзецца. Не толькі таму, што самастойнай краіне патрэбен самастойны погляд на сваё мінулае. Найперш таму, што тая, учарашняя гісторыя не была да канца праўдзівай і аб'ектыўнай.**

## Сказана не аб усім

На маю думку, гісторыя Кіеўскай Русі і Полацкага княства (маю на ўвазе ваенны аспект) значна больш складаная, чым гэта паказана ў аглядзе, дзе гаворыцца ў асноўным пра барацьбу паміж Полацкам і Кіевам. Сапраўды, гэта тэндэнцыя існавала, але шмат войнаў паміж асобнымі княствамі адбывалася і з іншых прычын, у залежнасці ад якіх Полацк уступаў у ваенныя саюзы з самымі рознымі палітычнымі групоўкамі. Калі не ўлічваць усю шматбаковасць тагачасных падзей, то атрымліваецца, што палачане толькі аб адным і думалі — як бы ім паваяваць з Кіевам.

Полацк актыўна змагаўся з крыжакамі ў час пакарэння імі Прыбалтыкі. Адзначаючы гэта, аўтары, на жаль, не напісалі пра адсталасць тагачаснай ваеннай тэхнікі і тактыкі палачан у параўнанні з заходнееўрапейскімі. У выніку Полацк Прыбалтыку страціў.

Апавядаючы пра стварэнне і пашырэнне Вялікага княства Літоўскага, мне здаецца, трэба было б расказаць пра паходы на Украіну, пра перамогу над татарамі пры Сіняй Вадзе (1362 г.), не забыўшыся, аднак, і пра перамогу над мясцовымі славянскімі князямі на Ірпені, атрыманую за 40 гадоў перад тым.

Шмат расказваецца аб войнах з Масквой, але, напэўна, усё ж недастаткова паказана, што гэта была барацьба двух цэнтраў яднання ўсходнеславянскіх зямель, у якой абодва бакі выглядалі не лепшым чынам. Літва гэтак жа актыўна і агрэсіўна сябе паводзіла, як і Масква. Аўтары зазначаюць, што татары актыўна дапамагалі Маскве сваімі набегамі, але нічога не пішуць пра тое, што і Літва выкарыстоўвала татар. Хоць бы тая ж Ворскла, калі Вітаўт умяшаўся ва ўнутраныя справы Залатой арды. І пазней, калі крымцы спустошалі Літву, нашчадкі Залатой арды (Шых-Ахмед і інш.) спустошалі Расію, бо былі ў саюзе з ВКЛ.

Палемічную завостранасць той часткі нарыса, дзе гаворыцца пра руска-літоўскія войны, можна зразумець, калі ўлічыць, што яны аднабакова трактаваліся ранейшай гісторыяграфіяй — расійскай і савецкай. Не трэба толькі цяпер рабіць процілеглае. У тую ж Лівонскую вайну Вялікае княства ўступіла па свайму жаданню, бароняючы крыжакоў, і спусташэнне Іванам IV Полацка праз некаторы час адгукнулася спусташэннем рускіх зямель Баторыем. А потым быў смутны час у Расіі, які пачаўся паходам Ілжэдзмітрыя (а беларусы ўдзельнічалі ў ім). Супраць Мініна і Пажарскага да Масквы хадзіў гетман Хадкевіч з беларуска-літоўска-ўкраінскім войскам. Карацей кажучы, беларусы таксама прыклалі руку да спусташэння Расіі.

Узмацніўшыся, Расія, вядома ж, аднавіла націск на небяспечнага ворага, што і прывяло да вайны 1654—1667 гг., жудаснай па сваіх выніках для Беларусі. Вось калі адгукнуўся нам смутны час. Але ці толькі рускія вынішчалі нас? Аўтары не пішуць пра паўстанні, пачынаючы з 1648 г., пра казацкія загоны, пра крывавы тэрор феадалаў, пра дзейнасць наймітаў, што ваявалі на баку Рэчы Паспалітай. А між тым у Беларусі адбывалася сапраўдная грамадзянская вайна. І як цяпер размеркаваць яе ахвяры?

Наступнае стагоддзе — пачынаючы ад Паўночнай вайны — іншыя дзяржавы высвятлялі свае адносіны на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, адначасова адбываліся шматлікія і «магнацкія», грамадзянскія войны. І невядома яшчэ, дзе больш гінула беларусаў. І ў час паўстання Касцюшкі нашы суайчыннікі часам паводзілі сябе жорстка.

Перыяд пасля 1917 г. прадстаўлены вельмі сціпла. Паколькі ён найбольш набліжаны да нас і найбольш палітызаваны, аўтары абмежаваліся фактычна беглым экскурсам. Беларусы змагаліся і за белых, і за чырвоных, і за карычневых. Беларуская краёвая абарона ледзь не вызваліла ад немцаў Беларусь, ды вось бяда — немцы папярэдне яе не ўзброілі, не было чым змагацца

«Кароткі агляд» выклікае шмат пытанняў, яскрава бачны яго недахопы. Але, тым не менш, гэта важкі крок ва ўзнаўленні гісторыі Беларусі. Хацелася б верыць, што ў далейшым, пры стварэнні больш буйной працы па ваеннай гісторыі, нашы навукоўцы не абмінуць падзеі, аб якіх яны пакуль што не паведамілі чытачам.

**В. ЖЫЛКО.**

г. Лунінец.

## А пра інтэрнацыяналізм забылі?

**З публікацыі «Забытая слава» вынікае, што на працягу стагоддзяў руская дзяржава толькі і рабіла, што ўчыняла агрэсію супраць Беларусі і беларусаў. Зусім апускаецца тое, што, мабыць, і ВКЛ не цукеркамі і пранікамі задобрывала насельніцтва Русі і не такім чынам, гасцінна і лагодна, далучала рускія землі.**

**Каб мне, дылетанту ў гісторыі, зразумець, да якога аб'яднання ў даўнія і цяперашнія часы маглі імкнуцца славянскія народы (а не асобныя палітыкі), у іх ліку і беларусы, дастаткова звярнуцца да прыкладаў, якія наглядаў і сёння наглядаю ў нашым жыцці.**

**Працуючы ў шахцёрскім забоі ВА «Беларуськалій», запомніў украінца, які захаваў бясхітрасную прывычку да сваёй роднай мовы, але ўсе працаваўшыя з ім добра разумелі яго, а ён кожнага з нас — у інтэрнацыянальным калектыве.**

**Калі Беларусь і іншыя рэспублікі, не выключаючы і Расію, за час свайго гістарычнага развіцця ў шматнацыянальнай Расійскай імперыі і СССР развіліся да незалежных дзяржаў, то трэба быць мужнымі, каб праўдзіва, шчыра і сумленна выразіць удзячнасць гэтаму інтэрнацыяналізму, які быў неабходны ўсяму беларускаму народу, а не асобным палітыкам і іх кан'юнктурным інтарэсам.**

**Эдуард ДУЛЕБА.**

г. Салігорск.

## Не ўсе злачынцы, хто прайшоў праз БКА

Нядаўна ў «Звяздзе» надрукаваны «Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі», дзе было расказана пра калабаранцкую Беларускую краёвую абарону, што налічвала 100.000 чалавек. Сярод іх былі злачынцы, на чыіх руках кроў нашых людзей, але былі і тыя, чыю віну нельга лічыць недаравальнай. Хочацца высветліць, хто вінаваты, што такая вялікая колькасць маладых людзей апынулася на баку ворага?

Думаю, што ва ўсім вінаваты тагачасны дыктатарскі бальшавіцкі ўрад, які пакінуў безабаронны беларускі народ на здзекі ворагу. Многа з гэтых жаўнераў было з Заходняй Беларусі. Аб'явіўся нейкі прэзідэнт Беларусі Астроўскі і так званы беларускі ўрад, які абяцаў незалежнасць Беларусі і атрымаў ад немцаў згоду на мабілізацыю ў гэтае войска ў другой палавіне 1943 года. Ворагі добра разумелі, што ў Заходняй Беларусі народ запалоханы і паслухмяны, бо польскія ўлады ўвесь час трымалі людзей пад страхам і вялі вялікую варожую прапаганду супраць бальшавізму. А тут яшчэ сталінскія чэкісты ўчынялі масавыя арышты і вывозілі ні ў чым не павінных людзей.

Немцы спачатку бралі добраахвотнікаў: гэта былі людзі сталага ўзросту, непасрэдна закранутыя сталінскім тэрорам. З іх фарміравалі асобыя батальёны для барацьбы з партызанамі. Вось у гэтых злачынцаў рукі ў чалавечай крыві.

Маладых юнакоў мабілізоўвалі наступным чынам: паліцаі з позвай прыходзілі ў хату і з бацькоў юнака бралі распіску, — калі ўцячэ з войска, то ўся сям'я будзе пакарана смерцю. Такое было войска. Юнакоў абмундзіроўвалі і на час вучобы выдавалі трафейныя вінтоўкі. Пасля накіроўвалі ў батальёны для праходжання службы. У асноўным служба была сумесна з немцамі па ахове дзеючых прадпрыемстваў. У 1944 г. вясной многія батальёны гэтых салдат перакінулі на захад, супраць другога фронта. Там амаль усе салдаты з БКА пераходзілі ў партызаны або ў ваенныя часці саюзнікаў, — ведалі, што іх сем'і будуць цэлыя.

Пасля вайны тыя, хто адчуваў за сабой віну за ўчыненае злачынства, засталіся ў розных краінах Захаду, бо такая магчымасць была. Запрашэнняў было вельмі многа. Тыя ж, хто быў падмануты савецкімі пасламі і ўпаўнаважанымі па справах рэпатрыяцыі і не адчуваў за сабой віны, вяртаўся дамоў. Многія былі залічаны на службу ў Савецкую Армію ва Усходняй Германіі. Але потым усе, хто вярнуўся дамоў, прайшлі праз ваенныя трыбуналы і ад імя СССР былі асуджаны па артыкулу 58 (а) і 58 (б) як здраднікі Радзімы тэрмінам ад 10 да 25 гадоў. Вось так закончылася барацьба БКА за незалежнасць.

Усе канцлагеры былі перапоўнены асуджанымі па 58 артыкулу. Гэта была велізарная дармавая сіла: за кавалак хлеба і міску баланды здабывалі вугаль, жалезную і медную руду, валілі лес, пракладвалі каналы, узводзілі вялікія будоўлі камунізму.

Але ці былі ўсе гэтыя беларускія юнакі здраднікамі Радзімы? Думаю, той, хто вяртаўся дамоў, самы сапраўдны патрыёт сваёй Бацькаўшчыны. І калі ён прайшоў праз канцлагеры і выжыў ды вярнуўся дамоў — гэта таму пацвярджэнне. Судзілі іх імем СССР. Можа, цяпер ад імя РБ трэба перагледзець справы тых, хто быў асуджаны па 58 артыкулу, вярнуўся дамоў і яшчэ жывы. Трэба было б звярнуць на іх увагу: яны ўсю маладосць сваю страцілі, страцілі здароўе з-за трагічнага збегу акалічнасцей.

**Б. МОРМЫШ.**

Нясвіжскі раён.

## Гісторыя вачыма беларуса

**Нарэшце з'явіўся гістарычны нарыс, у якім мінулае нашага народа паказана такім, якім яно было на самай справе: гераічным і трагічным, на працягу якога беларусы змагаліся за сваю незалежнасць. Так склалася, што суседзі то з аднаго, то з другога боку спрабавалі захапіць нашу зямлю і перакanaць нас, што без моцнай улады маскоўскіх ці варшаўскіх правіцеляў Беларусь існаваць не зможа.**

**Думаю, нарыс дапаможа многім беларускім настаўнікам, якія апошнім часам не ведаюць, як выкладаць айчынную гісторыю, на якіх прыкладах вучыць дзяцей. Хацелася б як найхутчэй атрымаць падручнік па гісторыі Беларусі, дзе б выкладаўся наш беларускі погляд на мінулае, які б вучыў дзяцей беларускаму патрыятызму, а не фарміраваў у іх комплекс уласнай нацыянальнай непаўнацэннасці, — што з поспехам рабілі падручнікі па гісторыі СССР.**

**Алена НЯРОНСКАЯ, настаўніца.**

г. Мінск.

## Не трэба «антырускай» гісторыі

З якім замілаваннем пішуць гісторыкі аб Гедыміне, Альгердзе, Вітаўце, Стэфане, Радзівілах і іншых магнатах, панах, шляхце. Як яны запэўніваюць чытача, што вельмі ўжо тады добра жылося беларусам. «Звязда» ўжо некалькі разоў друкавала карту «Вялікага княства Літоўскага», а нехта нават крычыць аб стварэнні краіны «ад мора да мора». І колькі ж зла, нянавісці да рускіх! Тут яны і «рабуюць» і «топчуць палі» і г. д. Забылі паны-гісторыкі, што Белая Русь, Малая Русь, Вялікая Русь — гэта Русь. Падобныя мовы, звычаі, адна праваслаўная вера. А чаму не пісаць праўду? Штосьці не пішуць пра тое, як рабавалі нас літоўскія і польскія магнаты, як здзекаваліся з беларусаў, зрабіўшы з іх бяспраўных рабоў, як заганялі ў каталіцкую веру, называлі народ не інакш, як «быдла». Дык што было «рабаваць», «таптаць» у беларуса?

Штосьці не пішуць гэтыя гісторыкі, як паўставаў беларускі народ супраць прыгнятальнікаў у Крычаве пад кіраўніцтвам Васіля Вашчылы і як Радзівілы залілі крывёю горад, саджаючы на кол паўстанцаў, і як Віцебск расправіўся з каталікам Кунцэвічам, які здзекаваўся з веры, звычаяў віцяблян.

А як пішуць аб Вялікай Айчыннай вайне? «Галопам» прамчаліся. А чаму не напісаць, з якім адчаем, з якой надзеяй глядзелі беларусы на ўсход (як калісьці нашы далёкія продкі), чакаючы дапамогі, каб выгнаць ворага з роднай зямлі. І дачакаліся. І на спаленую, зруйнаваную зямлю адразу ж пайшлі эшалоны з хлебам, зернем з галоднай Расіі, нават падручнікі, сшыткі для дзяцей, каб запрацавалі школы. А ці ж мы адны, беларусы, аднавілі б свае гарады, вёскі без дапамогі братоў?

**А. ЛЫЗІКАВА, І. АНЗЕЛЬ, В. ПАЎЛЮЧЭНКА.**

г. Віцебск.

Матэрыялы выпуску падрыхтаваў да друку Мікалай ЧАХОЎСКІ (тэл. 32-41-92).

ВАШ САД І АГАРОД

# Сунічная градка

Хто не марыць пра гэту буйную, чырвона-барвовую, сакавітую ягаду? Першыя экземпляры — найбольшыя. Асобныя не «пралазяць» у шклянку!

Вясна — найлепшы час для перасадкі суніц. Восенню засталіся кусты, якія трывала ўкараніліся, але не там, дзе належыць. Амаль да канца мая можна праводзіць закладку новых дзялянак.

Пачнём з праполкі і ўнясення ўгнаенняў. Падыдуць арганічныя (перапрэлы гной, ліставая зямля, кампост), мінеральныя (нітрафоска, напрыклад) і попел. Добра даць і тое, і другое, і трэцяе. Яны ўзаемна дапоўняць адзін аднаго. Дозы — вядро кампосту, 200 грамаў нітрафоскі, дзве шклянкі попелу на 3 квадратныя метры. Глебу старанна ўзрыхліць, імкнучыся перавярнуць слой. Выбраць усё пустазелле. Асабліва звяртаць увагу на шматгадовыя — пырнік, конскае шчаўе, дзьмухавец, розныя «паўзучыя». Чысціня градкі—залог будучых ураджаяў.

Аднагадовы кусцік суніцы павінен быць ад здаровай «мамы», мець два-тры лісткі, добра сфарміраванае сардэчка і моцную каранёвую сістэму белага ці крыху жаўтаватага колеру. Карэньчыкі падрэжам да 5 см, здымем пашкоджаныя лісткі. Адзін, самы маленькі ля сардэчка, пакінем. Усю расаду хоць бы на 20 хвілін змесцім у настой каравяку і гліны.

Садзім на роўным участку ці з невялікім схілам. Апошняе найлепш, бо веснавыя воды будуць лёгка сцякаць з градкі. Радкі размяшчаем адзін ад аднаго на адлегласці 60 см, паміж раслінамі — да 40 см. Ідуць яны з поўначы на поўдзень.

На малюнку відаць, што толькі чацвёрты кусцік высаджаны правільна. Сардэчка на ўзроўні глебы, карані распраўлены. Першы — занадта высока, другі — нізка, а трэці нейкі скрыўлены. Кусцікі добра прысыпаць кампостам, злёгку абціснуць (за лісток не выцягваецца), паліць. Лепш з лейкі праз сітечка. Вільгаць павінна насыціць зямлю на глыбіню залягання каранёў. Пасля паліву. падрыхліць і замульчыраваць торфам ці кампостам.

Расада ўкараняецца пяць-дзесяць дзён. Калі расліна выкінула новы ліст (другі ці трэці), а надвор'е сухое, можна яшчэ раз паліць з падкормкай. У падкормку дадаць попел (шклянку на вядро).

Пры добрым доглядзе ўжо ў гэтым годзе (можа, крыху запознена) атрымаеце першыя ягады. Але найбольшы ўраджай будзе на другі год. Пасля аддача зніжаецца. На чацвёрты-пяты сезон трэба закладваць новы ўчастак.

1 2 3 4

# Пасеем... грэчку

З многіх новых культур у дачнікаў грэчка займае, бадай, самае пачэснае месца. Хоць шклянку, хоць некалькі лыжачак, але высеяць на сваім участку гэту каштоўную культуру. Абмалаціць, зняць цвёрдую луску — не праблема. Удалася б толькі...

Некалькі квадратных метраў для грэчкі знайсці не надта вялікая праблема. Тым больш, што яна родзіць пасля бульбы ды і іншых культур. Глебы — супесі, суглінкі, дзярнова-падзолістыя. Добра, калі яны запраўлены з восені арганічнымі і мінеральнымі (фосфар і калій) угнаеннямі.

Адно асаблівае патрабаванне да поля ўсё ж ёсць. Яно павінна быць са слабакіслай ці нейтральнай рэакцыяй і без хлору. Значыць, з калійных найбольш падыходзяць попел, калімагнезія.

На гэта звернем асаблівую ўвагу, бо патрабавальнасць да калію і мікраэлементаў у грэчкі павышаная. Пры ўраджаі ў 20 цэнтнераў з гектара яна выносіць з поля калію больш за ўсе культуры.

Калі параўнаць з ячменем, гарохам ці яравой пшаніцай, то ў два разы! А вось азотных патрабуе мала.

На сотку дадзім да 0,4 кг азотных, 0,5 кг фосфарных і 0,45 — калійных (хлорысты калій не прымяняць). Усё ў разліку на дзеючае рэчыва. Эфектыўна ўносіць угнаенні ў радкі.

Сеюць (можна як гарох ці моркву), калі глеба на глыбіні знаходжання насення (ад 3 да 5 см) прагрэецца да 10 градусаў і мінуе небяспека замаразкаў.

Памятаем, што нават параўнальна невялікія маразы губяць маладыя парасткі і дарослую расліну.

Догляд заключаецца ў праполках і рыхленні. Асабліва важна выдаліць шматгадовае пустазелле з моцнымі каранямі.

У заключэнне заўважым, што пчолы і восы вельмі любяць грэчку, увесь дзень снуюць па прыгожых залацiста-жоўтых кветках, збіраючы нектар. Без іх, апыляльнікаў-зборшчыкаў, ураджаю не будзе. А мёд з грэчкі найбольш лекавы.

Убіраюць, калі расліна мяняе афарбоўку, становіцца больш цёмнай.

# Паспрачаемся з замаразкамі

Сіноптыкі абяцаюць лагодны май. Тэмпература будзе на два градусы вышэй звычайных сярэдніх паказчыкаў. Добра ўсё і з ападкамі — у норме.

Але да розных капрызаў надвор'я трэба быць гатовымі. Шмат дзе ўзышла ці восьвось пакажацца бульба. Людзі садзяць фасолю, памідоры, агуркі. А ўсё ж гэтыя культуры вельмі баяцца марозу. Асабліва небяспечныя маразы для расады. Ураз можа загінуць праца двух месяцаў.

Больш моцныя, але «хуткія» (да гадзіны) замаразкі шкодзяць менш, чым слабыя, але працяглыя.

Некалькі прыёмаў дапамогуць пазбегнуць бяды. Найлепш увільгатніць расліны, калі чакаецца рэзкая змена тэмпературы. Кропелькі вільгаці на лістках, плёнцы, паперы стануць ахоўнымі. Ды і глеба, насычаная вадой, добра прапускае цяпло і дрэнна — холад. Над градкай утвараецца нібы туман. Ён таксама «не пускае» мароз. Доследамі ўстаноўлена, што кволыя расліны можна зберагчы нават ад марозу ў два-тры градусы, калі кожныя 15—20 хвілін наладжваць дожджык з распыляльніка.

Добра дапамагаюць і дымныя кучы (смецце, лісце, папера, дровы, мох). Але работа не дасць плёну, калі падскочыць мароз ніжэй трох градусаў. У такім выпадку лепш надзець на расліны «шапкі» з паперы ці плёнкі, накрыць гадаванцы паперай, плёнкай, анучамі. Пажадана, каб у іх не было дзірак, інакш мароз дойме расліну. Вельмі эфектыўныя падвойныя укрыцці. Скажам, спачатку паперай (нават газетамі), а пасля — плёнкай. На малыя расліны можна прыладкаваць шкляныя слоікі.

Нарэшце, расліны вытрымаюць, калі іх акучыць зямлёю. Раніцай, як толькі холад адступіць, зямлю адгарнуць. А можна і пакінуць на суткі, калі холад трымаецца.

# «Цёплыя» расліны

Ва ўмовах Беларусі сарты многіх культур нармальна развівацца не могуць, бо спрыяльны для іх перыяд вельмі кароткі. І ўсё ж агароднікі здолелі прыстасавацца і да такіх умоў. Паўсюдна спеюць агуркі і памідоры, фасоля і фізаліс, кабачкі і гарбузы, перац і баклажаны.

Спынімся на апошніх. Іх радзіма — Індыя. Там вельмі цёплы і вільготны клімат. Зразумела, расліна выдатна развіваецца і дае багатую аддачу.

Летнія месяцы радуюць цяплом і нас. Толькі як падвесці расліну без прыкметных страт (дробныя да ўвагі не бяром) да цёплага чэрвеня? Аказваецца, гэта лёгка дасягаецца расадным метадам.

Яшчэ ў сакавіку высяваем папярэдне прарошчанае насенне баклажанаў у ёмістасці з-пад смятаны ці спецыяльныя торфабрыкетныя кубікі. За 60—65 дзён яны выкінуць моцныя лісточкі, стануць дужымі. Некаторыя закладуць нават кветкавыя пупышкі.

Высаджваць у адкрыты грунт (зона на поўдзень ад лініі Жлобін — Слуцк — Баранавічы — Брэст) у першай дэкадзе чэрвеня. Пад плёнку — на астатняй тэрыторыі. Чаму такая перасцярога? А таму, што баклажаны зусім не ведаюць, што такое мароз. Ім шкодзяць нават халодныя паўночныя вятры. Найлепшая тэмпература для развіцця — 25—30 градусаў. Нават пры дваццаці градусах завязванне і рост пладоў могуць прыпыніцца! Пры тэмпературы плюс 15 кветкі ападаюць. Недахват вільгаці таксама вядзе да ападання кветак і іх загнівання.

Культура вельмі патрабавальная да ўсіх элементаў сілкавання. Расце да 50—150 сантыметраў. У залежнасці ад сартавых асаблівасцей плод бывае сіняй, бура-сіняй, белай, цёмна-чарнільнай, амаль чорнай афарбовак. Прадаўгаватым, як кабачок, ці грушападобным. Раннія сарты выспяваюць да 120 дзён, позмія — за 140—160. Расаду высаджваюць, як і бульбу, — адлегласць паміж радкамі і ў самім радку адпаведна 60 і 30—40 сантыметраў.

У час вегетацыі неабходны праполкі з рыхленнем міжрадкоўяў, палівы, барацьба з захворваннямі. Абавязкова правесці дзве-тры падкормкі. Баклажаны вельмі любяць настоі каравяку і курынага памёту з дабаўленнем на вядро гатовай сумесі 30 грамаў суперфасфату і шклянкі попелу бярозы.

У далейшым догляд баклажанаў нічым не адрозніваецца ад догляду памідораў. Толькі часцей трэба паліваць. І не вельмі «загружаць» расліну пладамі, для чаго лішнія кветкі абрываюць. Добра і верхавінку прышчыкнуць пасля завязвання чатырох-пяці пладоў. Сочым, каб галінак-пасынкаў было не больш пяці.

Плады збіраюць, калі яны толькі пачынаюць бурэць і гаркаватыя на смак. Зразаць плод разам з пладаножкай. Гэта забяспечыць лепшае захоўванне і даспяванне.

Страў з баклажанаў вельмі многа. Чаго вартая адна ікра! Расліна карысная для ўсіх, бо паляпшае работу сэрца, ачышчае кроў.

Паўкілаграмовы лімон вырасціла калінінградка І. Туфанава. Дзесяць гадоў рыхтавалася даць такі плод лімоннае дрэўца, вырашчанае ёю з зярнятка. Шкада, але толькі адзін гэты залаты шар вырас у гарадской кватэры.

Фота В. МАНАЧЫНА. (ІТАР-ТАСС).



# ДЭБЮТ

Шчыра кажучы, усё менш і менш чытачоў дасылаюць у рэдакцыю свае фотаздымкі. Фотааматарам стала не па кішэні здымаць прыгажосць наваколля, ды яшчэ і плаціць за перасылку бандэроляў са здымкамі.

Тым больш прыемна было ўбачыць на рэдакцыйным стале гэтыя цікавыя фотаработы.

Іх аўтар — малады аматар, мінскі студэнт Аляксандр АНТАШКЕВІЧ. Прапануем для знаёмства два яго здымкі: «Ціхае возера» і «Сон пасля снедання».

## РАДЫЁ

### 14 мая

Апошнія паведамленні: 6.00, 7.00, 10.00, 15.00, 20.00, 23.00. 7.00 — «Радыёфакт». 8.15 — «Вясковыя ростані». 9.15 — «Сустрэча сяброў». Перадача 2-я, заключная. 10.15 — «Ці натхнёна радок пяецца?». 11.00 — «Для веруючых і няверуючых». 11.30 — «Перакапаць сябе». Пра школу п'янства. 12.00 — «Апоўдні». 13.00 «У абедзенны перапынак». 14.00 — эстрадная праграма. 16.05 — «Сябрына». Праграма для падлеткаў. 17.00 — «Эканамічны дзённік». 17.40 — «Ад нашага ўласнага карэспандэнта». 18.00 — перадачы абласнога радыё. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45 — вячэрняя казка. 20.00 — «Дзень нашага жыцця». 20.25 — А. Новік, «Жыццё загубленае...» Апавяданне. 21.00 — «Ад шчырага сэрца». Музычная праграма. 22.00 — «Клопат». Медыцынскі веснік. 22.10 — «Мы і свет». Міжнародная праграма. 23.10 — канцэрт. 0.00 — «Начны канал».

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ — СЁННЯ Ў НУМАРЫ

«У краінах Садружнасці». «Бліцфакт». «Кур'ер планеты». Інфармацыйныя паведамленні.

Яшчэ раз аб рэферэндуме. «Слова — за парламентам». Нататкі нашага парламенцкага карэспандэнта.

Пастанова Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь «Аб размерах дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей», «Аб размерах дзяржаўных стыпендый навучэнскай моладзі ва ўмовах лібералізацыі цэн», а таксама палажэнні аб парадку іх налічэння і афармлення.

«Гісторыя вучыць... Але як вывучаць гісторыю?» Артыкул настаўніка гісторыі В. Арлова.

Ёсць прапанова. «Як адвесці дамоклаў меч».

Чытач працягвае размову. «Ідзе тое, што ідзе, ці «бацькі» і «дзеці» ў эпоху рэфармацыі».

«Дарога і ты». Для аўтаматараў.

«Пасрэднік». Інфармацыйна-рэкламны раздзел.

## НАДВОР'Е

### 13 мая

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца халоднае з дажджамі надвор'е, паўднёва-заходні парывісты вецер. Тэмпература паветра ў Віцебску, Мінску — 10—12, Магілёве, Гродна — 12—14, Брэсце, Гомелі — 14—16 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак без ападкаў. Тэмпература паветра ўначы 1—6 градусаў цяпла. Месцамі замаразкі ад 0 да 2 градусаў. Тэмпература паветра ўдзень 14 мая — 12—17, 15-га — 15—20 градусаў цяпла.

Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.

## ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ!

Аб'явы і рэклама ад прадпрыемстваў, арганізацый, прыватных асоб для апублікавання ў «Звяздзе» прымаюцца па адрасу: 220041, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77, пакой № 222.

Даведкі па тэлефоне: 32-35-91.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 13 мая

**Беларускае тэлебачанне**

8.30. Раніца рэспублікі.
8.45. «Карнавал у Венецыі». Кінанарыс.
9.00. Тэлебачанне—школе. Беларуская літаратура. 7-ы клас.
9.30. Студыя «Мэта». Літаратурны тэлечасопіс «Вобраз» (паўтор).
16.30. Навіны.
16.35. Для дзяцей. Г.-Х. Андэрсен. «Салавей». Спектакль Дзяржаўнага тэатра лялек Рэспублікі Беларусь.
17.20. Мультфільм.
18.00. «Свет у гліне». Кінанарыс.
18.15. Крэдыты і рынак. Пра дзейнасць Белпрамбудбанка.
19.00. Абласныя навіны (Гомель).
19.10. Наш каментарый.
19.15. Наша прозвішча — Кузняцовы. Перадача 1-я. Сямейны дзіцячы дом.
19.50. Фестываль мастацтваў «Мінская вясна».
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.30. Фестываль мастацтваў «Мінская вясна».
22.20. Гандбол. Фінал кубка ІГФ.
23.00. НІКа.

**І канал. Астанкіна**

5.00. Раніца.
7.35. Мультфільм.
7.45. Дзіцячы музычны клуб «440 герц».
8.30. «Прывал вандроўнікаў». Маст. фільм. 2-я серыя.
17.00. Навіны.
17.25. Мультфільм.
17.35. Тэатр-92. «Наўруз».
18.35. «Прывал вандроўнікаў». Маст. фільм. 2-я серыя.
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Тэма.
21.25. Фермата.
21.55. Тэл. знаёмства. Урмас От гутарыць з Я. К. Лігачовым.
23.00. Навіны.
23.25. Машына часу.
0.30. «Толькі ў мюзік-холе». Маст. фільм.

**Канал «Расія»**

7.00. Весткі.
7.20. «Чалавек-невідзімка». Ілюзіяністка Л. Раціяні.
7.35. Мульці-пульці. «Каменная кветка».
8.05. Нямецкая мова. 1-ы год навучання.
8.35. Вольны час. «Дамашні клуб».
8.50. Нямецкая мова. 2-гі год навучання.
9.20. Мульці-пульці. «Верабейка».
9.30. Дзіцячая гадзіна (з урокам нямецкай мовы).
10.30. Рэтра. Вечар Мікалая Нікіцкага.
11.20. Руская мова.
11.50. «Санта-Барбара». 43-я серыя.
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
15.00. Там-там-навіны.
15.15. Перадача аб адкрыцці парку Еўра-Дыснейленд у Парыжы.
16.15. Тэлеагляд. «Далёкі Усход».
17.00. Т. Ін. Ка.
17.15. Белая варона. Дайджэст з лепшых перадач.
18.00. Чэмпіянат Расіі па футболу. «Асмарал» (Масква)—«Тарпеда» (Масква). 1-ы тайм.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. «Асмарал» (Масква)—«Тарпеда» (Масква). 2-гі тайм.
20.15. «РТР—год за два».
20.55. Без рэтушы. А. Папцоў у прэс-цэнтры «Рэспубліка».
22.00. Весткі.
22.20. На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
22.50. Канцэрт Патрысіі Каас.

### 14 мая

**Беларускае тэлебачанне**

8.30. Раніца рэспублікі.
8.45. «Музыка Мравінскага». Фільм-канцэрт.
9.10. «Валодзькава жыццё». Маст. фільм. 1-я серыя.
16.30. Навіны.
16.35. Тэлебачанне—школе. Гісторыя Беларусі. 10-ы клас.
17.05. Мультфільмы.
17.35. Творы В. Моцарта выконваюць школьнікі.
18.00. «Прыроды храм нерукатворны». Дак. фільм.
18.30. Факты і меркаванні. «Пошукі новага».
19.00. Абласныя навіны. (Гродна).
19.10. Зачытайце маё пісьмо...
19.15. Наша прозвішча—Кузняцовы. Перадача 2-я. Сустрэча праз два гады.
20.00. Тыдзень беларускага ўрада. Служба інфармацыі Савета Міністраў паведамляе...
20.25. Студыя «Мэта». Паэтычная гасцёўня. Новыя вершы С. Грахоўскага.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.30. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе... Студыя «КіТ».
23.30. НІКа.

**І канал. Астанкіна**

5.00. Раніца.
7.35. Мультфільмы.
8.20. «Прывал вандроўнікаў». Маст. фільм. 3-я серыя.
9.30. П. І. Чайкоўскі. «Успаміны пра Фларэнцыю».
10.05. «Гары, гары, мая зорка». Дак. фільм.
11.00. Навіны (з сурдаперакладам).
11.20. У свеце жывёл (з сурдаперакладам).
12.00. Спявае Марына Капура.
12.25. Паненка Ялта.
13.10. Блакнот.
13.15. Тэлемікст.
14.00. Навіны.
14.25. «Мастацтва Жостава» Дак. фільм.
14.45. «Шукайце жанчыну». Маст. фільм. 1-я серыя.
16.00. Мультфільм.
16.15. Разам з чэмпіёнамі.
17.00. Навіны.
17.20. Зямля і воля.
17.50. ...Да 16 і старэйшым.
18.30. «Прывал вандроўнікаў». Маст. фільм. 3-я серыя.
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.35. «Музычны падворак». Забаўляльная перадача з Аўстрыі.
22.00. Чорная скрыня.
22.40. Вячэрні альбом.
23.00. Навіны.
23.25. Дзевятка.
23.55. «Шукайце жанчыну». Маст. фільм. 1-я серыя.

**Канал «Расія»**

7.00. Весткі.
7.20. Расійскае бюро падарожжаў.
8.05. Іспанская мова. 1-ы год навучання.
8.35. Вольны час. «Увага: здымаю!»
8.50. Іспанская мова. 2-гі год навучання.
9.20. «Бурда модэн» прапануе...
9.50. Мульці-пульці. «Дзедава дудачка».
10.00. Без рэтушы.
11.00. «Праверка на дарогах». Маст. фільм.
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00—13.20. Весткі.
15.00. Там-там-навіны.
15.15. Дзіцячая гадзіна (з урокам нямецкай мовы).
16.15. Візаві.
16.45. Т. Ін. Ка.
17.00. «Засталіся там». Расказ пра лёсы савецкіх воінаў, якія трапілі ў палон у Афганістане.
17.45. Прадпрымальніцтва і традыцыі. «Кіно ўчора і сёння». Перадача 1-я.
18.00. Парламенцкі веснік.
18.15. Студыя «Нотабене».
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Праграма «ЭКС».
19.40. «Санта Барбара». 44-я серыя.
20.30. Хрона. У свеце аўта-мотаспорту.
21.00. Пятае кола.
22.00. Весткі.
22.25. Спартыўная карусель.
22.30. На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
23.00. Пятае кола. Працяг.

Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: член рэдакцыйнай калегіі Іван Бараноўскі, першы намеснік адказнага сакратара Яўген Ляхаў, старшы карэктар Ала Сабалеўская.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63850. Зак. № 92.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12